# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (512) | ГОД X | 19 СНЕЖНЯ 1965 г. | ЦАНА 60 гр


Перадз'ездаўская трыбуна

## З гуртком ці без гуртка

Л. МАЙСЕЮК

Паводле статута БГКТ гурток з'яўляецца найменшым звяном у структуры арганізацыі, асноўнай клеткай цэлага арганізма г. зн. таварыства. Як гэта часта бывае: статут адно, а жыццё другое. Жыццё ў гэтым выпадку, — што сталася ўжо нават афіцыйна прызнаным фактам — пайшло сабе зусім іншай дарогай! Як не намагаўся актыў, члены і працаўнікі Галоўнага праўлення таварыства, упоперак пастановам чарговых пленумаў і з'ездаў — упарты гурток гэтак і не пачаў працаваць. Зараз будзем святкаваць дзесяцігоддзе працы таварыства і хацелася б ўбачыць чалавека, які б у сваю чаргу, бачыў сваімі вачыма адзін хаця б сапраўдны гурток. Самому яшчэ не давялося, хаця быў час, калі моцна шукаў... Не мастацкі гурток, якіх поўна і якія развіваюцца і будуць развівацца, а гурток паводле агульнапрынятых у такім выпадку прынцыпаў, з дакументацыяй г. зн.:

1) са спісам членаў,
2) з пратаколамі сходаў і пасяджэнняў праўлення,
3) з планамі працы,
4) з паметкамі аб заплачаных членскіх узносах,
5) з іншымі слядамі ягонай працы ў асяроддзі.

Гурток у такім разуменні слова здаецца вогуле не існуе. Ці не сорамна да гэтага прызнавацца? Сорамна можа быць толькі таму, што так позна прызнаемся. Сэнс кожнай грамадскай працы зводзіцца да разумення жыцця і з'яў, якія ў ім выступаюць. І якія б разумныя законы не выдумалі для гэтага жыцця, калі яны нежыццёвыя, не выплываюць з гэтага жыцця і не адлюстроўваюць яго патрэб, яны заўсёды застануцца фікцыяй. Можна разважыць гэта больш канкрэтна.

На нашай вёсцы дзейнічае шмат грамадскіх і культурна-асветных арганізацый. Там і Саюз вясковай моладзі, і Ліга жанчын, і Ліга абароны краю, і Польскі Чырвоны Крыж і інш. Саюз вясковай моладзі выхоўвае новага селяніна, наследніка бацькаўскай гаспадаркі. Ліга жанчын памагае жанчынам здабываць новыя патрэбныя ў гаспадарстве веды, ці нават новыя прафесіі. Польскі Чырвоны Крыж змагаецца за чыстату і гігіену і гэтак далей і далей. І вось аднойчы паўстае новая арганізацыя: Беларускае грамадска-культурнае таварыства. Што робіць гэтая новая арганізацыя? Бярэ ад так званых «братніх арганізацый» па адным пункце з праграмы і паклікаўшы фармальна гурток ставіць перад ім наступныя задачы: выхаваць новага селяніна, наследніка бацькаўскай гаспадаркі, памагчы жанчынам здабыць новыя і патрэбныя веды, змагацца за чыстату і гігіену і інш. А ўсё гэта робіць з асаблівым жарам, таму што мы беларусы. Бедны член паклікананага такім спосабам гуртка, аднаго толькі не можа зразумець: чаму гэта ад яго патрабуюць яшчэ членскія ўзносы?

Нарысаваная тут схема можа выклікаць засцярогі: 1) што яна занадта ўпрошчвае ўсю даволі складаную праблему, 2) што аўтар прапануе відавочна нейкую беларускую «апалітычную» арганізацыю, адарваную ад жыцця і ад задач, якія стаяць перад усёй нашай грамадскасцю. Лёгка справіцца з гэтымі засцярогамі. Бо што схема ўпрошчана — факт, але

(Працяг на стар. 5)

## Маладыя разгар

Набліжаецца III з'езд Саюза вясковай моладзі ў Беластоку. Перадз'ездаўскія працы ў разгары. Ва ўсіх паветах адбыліся ўжо павятовыя з'езды.

У сувязі з такой падзеяй мы размаўляем са старшынёй Ваяводскага праўлення ЗМВ СТАНІСЛАВАМ КРУШНЕЎСКІМ.

**— Як выйшлі павятовыя з'езды?**

— На дзіва добра. Дэлегаты з'язджаліся ў 97%.

Нашы інтэрв'ю

фота З. Зарэмба



**— Абсалютная большасць моладзі не думае ўцякаць з вёскі...**

Вялікае зацікаўленне працай ЗМВ. Многа добрага актыву. Гаварыла моладзь аб справах істотных. Моцна выйшлі справы сельскай гаспадаркі, грамадскія чыны, развіццё культуры ў павеце, адукацыя моладзі. Многія ўзнімалі пытанне пераходу маладых з ЗМВ у партыю, падкрэсліваліся справы маралі, крытыкавалася негаспадарнасць.

Выйшла многа цікавых ініцыятываў моладзі, для прыкладу, на свае патрэбы гурток ЗМВ у Сухавольцах (Гайнаўскі павет) засеяў 40 га аблогаў аўсом, або ў Прыбудах у Гайнаўскім — гурток прыняў апеку над ляснымі звярамі.

**— Усё, пра што гаворыце, сведчыць, аб рангу вясковай моладзі яе пастаянным росце.**

— Я збудаваны нашай моладдзю. Прыгожыя яе выступленні. Гэтая моладзь нічым не адрозніваецца ад гарадской. Малады гаспадар умее цяпер гаварыць і ведае што.

**— Не ад рэчы тады будзе тут даць кароткае акрэсленне: якая цяпер вясковая моладзь.**

— Гэтая моладзь выхоўвалася ў перыяд вялікай крытыкі. Навучылася многаму. У войску, у школах, па радыё, тэлебачанню. Убачыла іншы свет. І прыняла не негацыю, але новае жыццё хоча заводзіць на вёсцы. Абсалютная большасць моладзі не думае ўцякаць з вёскі — іх адказ усім — мы на вёсцы зменім жыццё. І яна бачыць дарогу для сваіх намераў.

**— Якая ж яна, дарога вясковай моладзі?**

— Культ умеласці і ведаў. На прыкладзе горада яна навучылася, што можна здабыць усё, калі чалавек здабудзе адукацыю. Не можна быць гаспадаром, маючы толькі сілу і вынослівасць каня. Але ўсё можна змяніць праз веды. Адгэтуль і пагоня сярод вясковай моладзі за курсамі, школамі на вёсцы. На завочныя сельскагаспадарчыя тэхнікумы ў гэтым годзе было значна больш ахвотных абсальвентаў ПР і СПР чым месц. Ніколі дагэтуль так не было.

(Працяг на стар. 5)

Юрась Свірка

## Мой вечны, мой мудры бор...

Мой вечны, мой мудры бор,
Я зноў навастрыў тапор.
Лязо уваб'ецца ў камлі —
І соснам ляжаць на зямлі.

А я ж без цябе, як без рук,
Мой вечны, мой мудры друг.
І здарыцца так у жыцці,
Што мне да цябе не дайсці.

І я больш не ўбачу цябе,
І я не пачую твой спеў...
Мой вечны, мой мудры бор,
Я кінуў на дол тапор.

фота: Ул. Паўлючук







## З В'етнама

Апошнім часам амерыканскае камандванне ў Сайгоне ўвяло да барацьбы на тэрыторыі Паўднёвага В'етнама новыя цяжкія баявыя гарматы, якія вы бачыце на здымку.

(а-лів)

Фота ЦАФ

# БЕЛАРУСЫ НА МАЗОЎШЫ

Як паведамляе др Е. Вішнеўскі ў «Навуковым зборніку БГКТ», у першай палове XV ст. беларуская каланізацыя прасунулася нават на Мазоўша. Звязана гэта было з тым, што ў 1433 годзе мазавецкі горад Тыкацін атрымаў літоўскі магнацкі род Гаштолдаў. Гаштолды паволі высялялі мазавецкую шляхту і на яе месца пасялялі беларускіх і літоўскіх сялян.

Мазавецкая каланізацыя затрымалася на лініі ракі Нарва, а ў аколіцы Суража прасунулася далей за Нарву на лінію вёсак Бароўскае — Зімнохы — Самулкі — Боцькі — Драгічын. Пачынаючы ад Харошчы і ў кірунку на раку Буг гэта лінія захавалася больш - менш аж па сённяшні дзень, штопраўда, з невялікімі пераменамі звязанымі з пасляваеннай рэпатрыяцыяй некаторых вёсак у БССР (Зачарляны, Касцюкі, Тапілец над Нарваю).

У Тыкаціне шмат прозвішчаў на канчатак -іч, напр. Сітовіч, чаго не наглядаецца ў іншых мазавецкіх гарадах. Сляды былой гаштолдавай каланізацыі засталіся ў назвах многіх падтыкацінскіх вёсак, як: Папаўляны, Саннікі, Капіцы, Лазюкі, Крапіўніца-Гайкі, Кастры-Літва.

Маем таксама дачыненне са слядамі надта старой руска-валынскай каланізацыі, якая сутыкалася з мазавецкай у нізінах ракі Нурэц, у аколіцах цяперашняга мястэчка Цехановец. Тут вельмі даўно адбылося перамяшанне абедзвюх каланізацый, і мазавецкая большасць асімілявала валынскую меншасць. У цеханоўскай аколіцы, напрыклад, знаходзіцца вёска Чарна Велька, дзе засталіся рэшткі нават праваслаўнага насельніцтва, якое карыстаецца мазурскім дыялектам. Тут ёсць царква. Рэшткі валынскіх каланістаў, іх патомкі пражываюць у Астражанах, Гродзіску, Драгічыне.

Далей, на Мазоўшы такія вёскі, як «Любовіч, Обрытэ, Шубы, Рэпкі, Струпкі, Выліны-Русь. Руска Весь» сведчаць, што ўзніклі яны за справай беларускіх каланістаў, якія пасяліліся ўздоўж ракі Буг і рэчкі Нурэц, мяшаючыся з мазаўшанамі. (СЯ)

# Тэлевізійныя вобразы на грампласцінках

Адна з амерыканскіх фірм выпрадукавала грампласцінкі, на якіх апрача гуку можна запісваць тэлевізійныя вобразы. Вобраз, падобна як і гук, запісваецца на пласцінцы пры дапамозе мікраскапійнай велічыні раўкоў. Вобраз з пласцінкі перадаецца пры дапамозе грамафоннай іголкі. Абодва бакі 33-ох абаротнай пласцінкі, якой дыяметр раўняецца 30 см маюць запісаных да 400 вобразаў і каля 40 мінут мовы або музыкі.

Перадача вобраза з пласцінкі адбываецца пры дапамозе звычайнага адаптара, а вобразы разам з гукавою ілюстрацыяй могуць перадавацца адразу на многай колькасці тэлевізараў. Перадачу можна ў кожным моманце перарваць, прамінуць якую - небудзь яе частку або паўтарыць. Для гэтага хопіць перасунуць рукою ручку з іголкаю адаптара.

Для перадачы аўдыцыі найгранай на пласцінцы выкарыстоўваецца нармальныя (стандартныя) адаптары і тэлевізары. Усё ж тэлевізар павінен быць спалучаны з адаптарам пры дапамозе спецыяльнай электрычнай прыстаўкі, якая ператварае механічнае ўздрыгванне іголкі на светавыя імпульсы, а гэтыя ўкладаюць вобраз на экране тэлевізара.

Варта адзначыць, што пры дапамозе гэтай сістэмы, тэлевізійныя вобразы можна перасылаць тэлефанічнымі лініямі.

(ака)

# Як слану балеў зуб...

На вялікага слана сыпаліся скаргі. Кіраўнік гаспадаркі запэўніваў, што слон хуліганіць, псуе дзяржаўны інвентар. Падышоў да стоража, вырваў з рук мятлу і з'еў яе разам з палкаю. А другі раз паламаў на трэскі драбіну і таксама з'еў. Камусьці сарваў з галавы берэт і з'еў, а нейкаму госцю такім спосабам з'еў капелюша...

А сёння слон стаіць ціха, абапёрся сваёю трубою аб зямлю бы на палку. Наглядчыкі занепакоіліся, абыйшлі слана і паглядзелі, ці часам няма на ім якіх ран. Але нічога не заўважылі. Далі слану цукар — не ўзяў, і яблыка не ўзяў, і капусту таксама. Усё ясна. У яго баліць зуб! Нават ківаецца... І то так моцна, што нават рукою можна вырваць. І вырвалі. Ну і зубок — даўжыня сорак сантыметраў! Слон уцешыўся і пачаў з вялікім апетытам есці капусту.

У сланоў зубы мяняюцца шэсць разоў. Калі дзеці ядуць многа морквы і яблык, зубы выпадаюць самі. А сланам, каб выпалі зубы, патрэбна яда больш цвёрдая. Патрэбны венікі. Так, самыя звычайныя венікі і не менш трыццаці кілаграмаў штодзень. Інакш не толькі зубы ў слана доўга не выпадаюць, але і жывот баліць. Як у людзей ад адной празмернай кашкі. (а-ся)



Савецкі геолаг Сяменаў (злева) і прафесар Сарэнсен у тым месцы, дзе знойдзена новы мінерал.

# Новы мінерал

Савецкія геолагі Сяменаў і Герасімоўскі, якія супольна з групаю дацкіх геолагаў шукаюць золата ў Грэнландыі, знайшлі невядомы да гэтага часу мінерал. Гэты мінерал атрымаў назву сарэнсеніт — у гонар кіраўніка экспедыцыі вядомага дацкага геолага, прафесара Сарэнсена.



Сарэнсен — новы мінерал. (а-лів)

# Як узнікаюць землетрасенні?

Як узнікаюць землетрасенні? Гэта праблема пастаўлена ў цэнтр увагі створанага ў Ашхабадзе Інстытута фізікі зямлі і атмасферы. Новы інстытут мае II лабараторый, некалькі іонасферных і сейсмічных станцый. Ёсць, акрамя таго, спецыяльныя перасовачныя геафізічныя станцыі, абсталяваныя на машынах высокай праходнасці. Наяўнасць буйнай вытворчай базы, аснашчанай сучаснай тэхнікай, дазваляе забяспечыць высокі ўзровень даследчых работ.

Аляксей Карпюк

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Ды выйшла так, што гарадоцкі амтскамісар, такі верны служака Гітлера, потым паслужыў і партызанам.

У той дзень маці з раніцы сабралася пячы партызанам хлеб, а бацька адправіўся вазіць на поле гной. Накідаўшы фуру з капцом карычневага і моцнага, як спірт, перагною, бацька запрог кабылу і ад карoўніка паехаў да варот. Там кабылу стрымаў, адчыніў брамку.

— Ты, Нічыпар! — закрычала маці. — Выпушчу парасят, няхай пагрэюцца на сонцы, прыглядзі там за імі!

— А мне што? Выпускай, няхай сабе пабрыкаюць!

З-пад ног маці вырваліся на панадворак тры тупарылыя, пародзістыя парсючкі, засвяцілі белымі бакамі.

— Нічыпар, зірні на пчолы, чагосьці яны надта неспакойныя!

Бацька глянуў у агародчык. Над штакетамі паветра густа прашывалі чорныя маланачкі. Няўжо на вуллі напалі чужыя грабіць рэшткі зімовага мёду? Бацька пачапіў лейцы на ручку воза, падышоў да плоту, прыгледзеўся лепш. Пчолы падалі на лёткі вулляў часта, спавалі густа, але спакойна, дзелавіта. Вакол падворка цвілі вішні, пчолы не трацілі часу, дружна ўзяліся за работу.

— Ат, выдумляеш! — прамовіў ён. — Сёння ўзятка ім добрая, вось і лётаюць!

Гэтым часам падсвінакі вырваліся за вароты.

— Куц-куц-ку! — кінулася за імі маці. — О-ей, яшчэ пад поезд угодзяць!

151

— Чорт іх не возьме, — бацька ўзяўся за лейцы, — няхай крыху пабрыкаюць. Скіну гной, заганю. Ідзі дахаты, рабі, што маеш рабіць. Но-о!

Кабыла ўдарыла грудзьмі ў хамут, сарвала з месца цяжкі воз і подбегам паперла яго за вароты туды, дзе бацькі збіраліся ў гэтым годзе садзіць бульбу.

Тым часам падсвінакі, аслепленыя сонцам, ап'янелыя ад свабоды і паветра, пачалі бегаць па замкнутым кругу. Затым пачулі рунь жыта і памчалі да яе. «Цяпер яны адтуль нікуды не пойдуць!» — супакоіў сябе стары і адразу пра іх забыўся.

Бацька скінуў апошні шматок гною, склаў дошкі і хацеў ужо ехаць дахаты, калі раптам пачуў крык. Ля чыгункі на дарозе стаяла брычка, у ёй сядзеў амтскамісар з Гарадка і клікаў яго. Стары закруціў лейцы, спакойна пайшоў да дарогі: мо' будзе немец дарогу пытацца?... Зблізку ўбачыў, што камісар раззлаваны і нечага тыкае ў поле кіем. Ісці далей бацька збаяўся.

— Фэрфлюхтэнэ! — немец выскачыў з брычкі, пачаў лупцаваць старога кіем.

Ашарашаны бацька спачатку засланяўся, потым давай уцякаць. Адбегшыся за кабылу, азірнуўся. Немец трос кульбай. Бацька глянуў у поле, куды паказваў камісар. Там, на руні жыта, з насцярожанай цікавасцю прыглядаліся да ўсёй сцэны віноўнікі. І толькі цяпер дайшло да бацькі, чаго немец біўся.

Амтскамісар аднаго селяніна палупцаваў за тое, што ён вёз сена і трусіў па дарозе; другога — што ехаў праз мястэчка на брудным кані. Белявіцкім мужчынам, што дрэнна расчысцілі ад снегу гасцінец, сам адмераў па дваццаць бізуноў. Пра гэта людзі толькі гаварылі. Цяпер дасталося і самому! Было вельмі крыўдна, пяклі плечы ад кія, разбірала злосць — ну якая табе справа да маіх свіней, да майго жыта?!

Бацька папёр падсвінакаў на падворак, сагнаў на іх злосць і пачаў тапіць сваю крыўду ў працы.

152

Сонца хілілася з поўдня. Бацька ачысціў апошні воз, сабраўся ехаць дахаты. Падняў галаву і насцярожыўся: на хутар імчала адкрытая легкавая машына, поўная людзей. У той час на легкавых ездзілі толькі немцы, і, вядома, не салдаты. На выпадак небяспекі ён дамовіўся з маці, як і куды ўцякаць. Але бегчы папярэдзіць жонку было позна. І ў яго забілася сэрца; каб не ўпасці, хапіўся за ручку воза.

Машына спынілася на дарожцы, з яе вылез высокі і худы немец у акулярах і... той самы амтскамісар. Затым выскачыла яшчэ і паненка. Немец штосьці сказаў ёй і адвярнуўся. Паненка накіравалася да фурманкі.

— Добры дзень! — сказала прыязна.

Яна была маленькая, шчупленькая, са светлымі, як лён, валасамі і сінімі вачыма.

— Добры дзень, — стары не выпускаў ручкі. Ад паненачкі небяспекі быць не магло, ён перанёс позірк на немцаў.

Паненка таксама азірнулася. Толькі хутка, крадком, насцярожана.

Тады ўсхвалявана шапнула:

— Я да вас па справе... Я — Маруся з Кракава!

Бацька спалохана азірнуўся яшчэ раз. У машыне з шафёрам какетнічала другая дзяўчына. Доўгі немец, бліскаючы на сонцы акулярамі, вёў амтскамісара па полі. Камісар трымаўся на пэўнай адлегласці, вінавата нешта тлумачыў, то выцягваўся ў струнку. Паненка ўстрывожана чакала адказу. Бацька нічога не разумеў, у яго вырвалася само:

— А я думаў, што вы з Варшавы...

Гэта быў адказ на пароль, і дзяўчына ўздыхнула з палёгкай.

— Вы бацька Аляксея?

Стары насцярожана паўзіраўся на яе.

153

# ТРЫБУНА чытачоў

## Курашаўскі сельгасгурток

Сельскагаспадарчы гурток у Курашаве адзначае зараз пяцігоддзе свайго існавання. Налічвае ён 35 членаў. Гурток мае багаты парк сельскагаспадарчых машын. А вось некаторыя з іх: 6 трактараў, 4 снапавязалкі, 7 плугоў, 2 культыватары, 3 бараны, 2 малацільныя агрэгаты і г.д.

З услугаў гуртка карыстаюць 7 навакольных вёсак, а менавіта: Волька, Тынявічы, Ляды, Камень, Лушчы, Падрэчаны і Трывежа. На адным са сходаў праўлення гуртка была прынята пастанова, каб бясплатна служыць услугамі для школы, якая вядзе гаспадарку на 0,5 гектара.

Сельскагаспадарчы гурток вядомы ў аколіцы з таго, што ўсе працы, якія ён выконвае, робяцца хутка і добра. Безумоўна, вялікая ў гэтым заслуга праўлення гуртка, якое ўзначальваецца прэзасам Рыгорам Рамановічам. Павялічваюць славу сельгасгуртка і трактарысты. У мінулым годзе кожны трактарыст меў выпрацаваных далёка за 1000 рабочагадзін. Добра таксама працуе дыспазітар гуртка Сяргей Шпілька.

У мінулым годзе сельгасгурток выпрацаваў чыстага даходу 94760 злотых. Бягучы год таксама будзе закончаны вялікімі фінансавымі дасягненнямі.

**А. Швед**
Курашава

## Сучасная жанчына

Дзяўчаты і маладыя жанчыны, якія жывуць у вёсцы або ў малым гарадку, далёка ад вялікага горада, не заўсёды могуць паспець за найнавейшай модаю. Зразумела, што ў такіх умовах цяжка дбаць пра свой знешні выгляд і выглядаць як «сучасная дама». Але будучы ў вялікім горадзе схадзіце ў парыкмахерскую і скарыстайце з парады парыкмахера, — абрэжце коратка валасы.

Я разумею, што цяжка вам будзе прызвычайвацца да новай прычоскі. А прыпомніце сабе некалькі гадоў таму назад, таксама як цяжка было прывыкнуць да валасоў зачэсаных у кок, або натапіраваных. Сучасная мода канчаткова выкрэсліла тапіраваны кок.

Найнавейшая мода патрабуе кароткія і абстрыжаныя валасы. Модна абстрыжаная галава і — вось модны сілуэт жанчыны.

На здымку, падаю ўзор моднай прычоскі: валасы ўкладаюцца ў мяккія локаны, не прыгладжаныя і не лакіраваныя.

Аднак мне здаецца, што пасля кароткага перыяду прызвычайвання да «новага» твару будзеце задаволеныя і з выгады і з новай прычоскі.

Не толькі вы, але і валасы таксама хочуць мець выгоду і апеку. Найчасцей пасля тыдня валасы насычаюцца тлушчам, страчваюць бляск. І таму большасць жанчын павінна мыць галаву пасля 7—8 дзён, толькі пры вельмі сухіх валасах пасля 10—14 дзён. Найлепш мыць валасы шампонамі, якіх у нас вельмі багаты выбар. У магазінах прадаўшчыцы вам параяць, які шампон да вашых валасоў надаецца найбольш. Толькі пасля мыцця трэба вельмі добра спаласкаць галаву, выцерці насуха, расчасаць і сушыць свабодна.

**АКСІННЯ**

---

— Вы не крыўдуйце, што так непасрэдна! — шчыра папрасіла. — У мяне вельмі пільная справа. Няма іншага выйсця, як ісці напралом. Вам даручу пакет, зараз жа перадайце сыну, няхай адпраўляе куды трэба...

— Які пакет, яко-ому сыну, што ты вярзеш?! — апрытамнеў ён.

Дзяўчына не дала гаварыць:

— Мы меліся даставіць яго ў Гарадок аднаму чалавеку, ды яго гестапа арыштавала. Тыдзень таму назад я спаткалася з Вайцяхоўскім, ён апавядаў пра вас, я запамятала вёску, хутар...

Усё нібы праўдзіва. Бацька зноў перавёў вочы па немцаў.

— Гэты доўгі, — горача пераконвала дзяўчына. — гаўляйтар па сельскай гаспадарцы Беластоцкай акругі, чалавек наш. Я — яго сакратар. Па дарозе з Беластока ўзялі вашага амтскамісара, каб усё выглядала на службовую паездку...

— М-м-м! — паківаў бацька галавой і ўздыхнуў: — Мелі каго ўзяць з сабой!

Дзяўчына рассмяялася.

— Не ведаю, што яму наплёў шэф. Амтскамісара не бойцеся, ён тупы служака, яму гаўляйтар зубы загаворыць. Высцерагацца трэба шафёра. От, каб што-небудзь у вас можна было купіць з прадуктаў?

Бацька хвіліну падумаў.

— То з зімы засталося кілаграмаў з пятнаццаць мёду.

— О!

— Адно зацукрыўся надта...

—Нява-ажна, нам для блізіру!

— Тады валяй на падворак, я зараз прыеду!

— Анка! — закрычала Маруся да машыны. — Бяры вядро і мой партфель!

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

154

---

### СПАТКАННЕ З ПАЭТАМІ

Нядаўна ў нашай школе ў Ласінцы адбылося спатканне з беларускімі паэтамі Алесем Барскім і Віктарам Шведам. Яны расказвалі аб сваёй творчасці і чыталі свае вершы. Спатканне было вельмі цікавым.

**Аляксандр Варонька**
вёска Рэпіска

### ЗА ІХ ПРАЦУ

З нагоды дня настаўніка па ініцыятыве гуртка БГКТ 21 лістапада ў Малініках адбыўся ўрачысты сход. Пасля даклада і ўручэння кветак настаўнікам адбылася мастацкая частка, якую падрыхтавала моладзь вёскі. Зместам яе былі гумарыстычныя «ўрокі», песні аб настаўніках і для настаўнікаў.

На заканчэнне схода адбыўся конкурс на тэму. «Праца і жыццё настаўнікаў у ПНР».

**Мікола Іванчук**
вёска Малінікі

### КАБ МЕНШ БЫЛО ПАЖАРАЎ

Каб менш было пажараў, каб умела і хутка іх тушыць, каб запабягаць іх узніканню — аб усім гэтым шырока нядаўна гаварылася на павятовым з'ездзе добраахвотніцкіх пажарных каманд у Саколцы.

Было даказана фактамі, што прычынай вельмі частых пажараў з'яўляюцца дзеці. Таму з'езд пастанавіў узмоцніць супрацьпажарную прапаганду. Два разы ў год будуць праводзіцца ў паасобных вёсках даклады аб «прафілактычных супрацьпажарных сродках» і аб заахвочванні арганізавання новых пажарных каманд.

Удзельнікі з'езда закранулі яшчэ адну вельмі істотную праблему. Датычыць яна камінараў, якія замест чысціць коміны «чысцяць сялянскія кішэні». Да гэтага часу справа гэта не ўладжана і камінары поўнасцю не выконваюць пакладзеных на іх абавязкаў.

**К. П.**
Крушыняны

### СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫ КУРС

Вёска Тарнопаль распаложана над ракою Нарвай. Яна налічвае каля 50 гаспадароў. Усе яны кожны чацвер прыходзяць на сельскагаспадарчы курс. З зацікаўленнем выслухоўваюць лекцыі на сельскагаспадарчыя тэмы. Напрыклад, у адзін чацвер гаварылася аб тым, як і дзе будаваць хлявы, дамы і клуні. У наступны чацвер — аб угнаеннях зямлі, што і калі сеяць.

**Славамір Садоўскі**
в. Тарнопаль

### ПЕРАДАВЫ ГАСПАДАР

Аляксандр Пракапюк жыве на хутары ў Сабутцы, у грамадзе Пасынкі. Гаспадарыць ён на 11 гектарах. Карыстаецца сучаснымі агратэхнічнымі метадамі апрацоўкі зямлі, жыве даволі багата. Кожны дзень прадае дзяржаве 50 літраў малака. Восенню даставіў да пункту скупу 120 працэнтаў цукровых буракоў. Мае Аляксандр Пракапюк уласную жняярку, касілку, малацільны агрэгат і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. З абавязкавых паставак вывязваецца тэрмінова.

**В. К.**
Сабутка

### ДОБРЫ ЛЕКАР

У Храбалах на Бельшчыне ёсць пункт аховы здароўя. Працуе там лекар Мікола Паплаўскі. Абслугоўвае ён тры грамадскія рады, а менавіта: Храбалы, Рыбалы і Пасынкі.

Карыстаецца ён у вясковым асяроддзі вялікаю пашанай, таму што добра лечыць і з'яўляецца добрым чалавекам.

**К. В.**
Храбалы

### ВЁСКА ЗМЯНІЛА САВАЁ АБЛІЧЧА

Да 1939 года ў Зубаве (Бельскі павет) была школа з двума класамі. Пасля вызвалення арганізавана тут сямікласную школу з беларускай мовай навучання. Зараз працуе ў ёй пяць настаўнікаў. Узначальвае школу Іван Самянюк.

У 1953 годзе жыхары вёскі дабудавалі частку школьнага будынка. Многа працы ўлажылі: Эмільян Ціханюк, Рыгор Ціханюк і Уладзімір Паўлючук.

З Зубава многа моладзі пайшло вучыцца ў сярэднія і вышэйшыя школы. Некаторыя ўжо працуюць на адказных пасадах. І так, Марыся Кісецкая з'яўляецца выкладчыкам хіміі ў вышэйшай школе ў Быдгашчы, Уладзімір Нічыпарук працуе ў аддзеле архітэктуры ў Ваяводскай радзе нарадовай у Беластоку.

У Зубаве добра развіваецца сельскагаспадарчы гурток, які мае два трактары і многа іншым машын.

Сяляне маюць зараз загаспадараваныя сенажаці, якія даюць нават па 80 цэнтнераў з гектара. Вёска электрыфікавана і радыяфанізавана, мае сваю краму і злеўню малака.

**Васіль Кірылюк**
вёска Зубава

---

Пісьмы ад чытачоў

## Трагле не там

У артыкуле Сакрата Яновіча «У пошуках яцвяжскіх слядоў», надрукаваным у «Ніве» ад 14 лістапада г.г., ёсць напісана:

«Каля Крынак існуе вёска Хлоднэ Влукі, якую ведаюць пад назваю Трайгле».

Нічога падобнага!

Хлоднэ Влукі іначай называюцца Невале, а Трагле знаходзіцца ля дарогі Крынкі — Крушыняны, на пятым кіламетры, а ад Халодных Влук — каля 10 км.

Наогул артыкул моцна цікавы, пабольш бы такіх.

Жадаю ўсяго найлепшага!

**К. Пятэльскі**
**Крушыняны**

## Сардэчныя тайны

Дарагое **Сэрцайка**

Скончыў я 15 год. Год таму закончыў пачатковую школу ў суседняй вёсцы. Вельмі хацеў бы быць акцёрам і выступаць у фільмах. Я сам люблю накручваць фільмы. Парай, Сэрцайка, куды мне трэба звярнуцца ў гэтай справе. А ці гэта мажліва ў маіх гадах?

**Валодзя**
з Гайнаўскага павета

Дарагі **Валодзя**:

Не так даўно мы пісалі, а ўласціва адказвалі на падобны ліст. Ну, але паўторым яшчэ другі раз. Няхай прачытаюць і іншыя маладыя хлопцы і дзяўчаты, якія мараць аб акцёрскай кар'еры.

Каб стаць акцёрам, трэба мець не пачатковую школу, а вышэйшую акцёрскую школу. Таксама і рэжысёрам. Акцёрская школа мае розныя аддзелы, а між іншым і рэжысёрскі. Так вось, калі ты марыш аб гэтым, дык павінен паступіць найперш у сярэднюю школу, скончыць яе, а пасля толькі паступіць у акцёрскую школу. А дастацца туды не так ўжо і проста. Хацела б табе сказаць, што акцёрская праца не толькі прыгожая (як бачыш на фільмах), але перад усім вельмі цяжкая. Так што твае мары пакуль што вельмі далёкія.

Жадаю ўсяго найлепшага

**Сэрцайка**

---

ШТО ГЭТА?

Развязка адгадкі са стар. 8: гаспадыня зачыняе дзверы халадзільніка.

---

## КІНО

**Праграма**
**на 21—26.XII. 1965 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Człowiek ze słomy" (włoski), 21—22. „Ambicja" (radz.), 23—24. „Casanowa znad Dunaju" (węgierski), 25—26.

**Кляшчэлі**
„Wspomnienia z wakacji" (radziecki), 21—22. „Ten wstrętny celnik" (franc.), 23—24. „Późne popołudnie" (polski), 25—26.

**Дубіны**
„Skowronek" (węgierski), 25—26.

**Нарва**
„Czarci żleb" (polski), 22—26.

**Нараўка**
„Prawo i pięść" (polski), 22—26.

**Чыжы**
„Kapo" (włoski), 22—26.

**Дубічы Царкоўныя**
„Biedni bogacze" (węgierski), 22—25.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Bokser i śmierć" (czeski), 22—26.

**Орля**
„Biała karawana" (radz.), 22—26.

**Райск**
„Zakazane piosenki" (polski), 22—25.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Na szlakach Australii" (radziecki), 21—23. „Człowiek z fotografii" (radz.), 24—26.

**Міхалс**
„Witajcie wstęp wzbroniony" (radz.), 21—22. „Człowiek z 2-ch światów" (chiński), 23—24. „Droga przez cmentarz" (radz.), 25—26.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Нурэц**
„Biały szejk" (włoski), 21—22. „Skarb" (polski), 23—24. „Ulica graniczna" (polski), 25—26.

**Мілейчыцы**
„Ciao, ciao, bambina" (włoski), 21—22. „Umrzeć w Madrycie" (franc.), 23—24. „Urocza gospodyni" (USA), 25—26.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Herszt" (franc.), 21—22. „Gdzie twoje miejsce" (czeski), 23—21. „Elektra" (franc.), 25—26.

**Шудзялава**
„Na tropie policjantów" (angielski), 22—26.

**Сідра**
„Hary i kamerdyner" (duński), 21—22. Dom w dzielnicy Willowej" (czeski), 23—24. „Romans z nieznajomym" (USA), 25—26.

**Сухаволя**
„Wir" (polski), 21—22. „Judex albo zbrodnia ukarana" (franc.), 23—24. „Pingwin" (polski), 25—26.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Новы Двор**
„Życie raz jeszcze" (polski), 25—26.

**Ліпск**
„Podróż w kwiecień" (radz.), 25—26.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie —14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Błtk C-3.

